У нумары: Паўгадавая дзейнасць БГКТ | Слаўныя людзі Падляшша | З лістаў землякоў


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 32 (287) | ГОД VII | 12 ЖНІЎНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.




Мастацкі калектыў сельгаскааператыва з Крывой, Бельскага павета. Фота ТАЧ

УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК

Сакратар ГП БГКТ

## Паўгадавыя дасягненні БГКТ

Увайшлі ўжо ў традыцыю паўгадавыя справаздачы з працы БГКТ. Яны паказваюць дасягненні і недахопы аднаго сезона дзейнасці, а таксама насоўваюць шматлікія рэфлексіі перад наступным асенне - зімовым сезонам працы.

30 чэрвеня бягучага года арганізацыя налічвала 140 гурткоў з агульнай колькасцю 3692 членаў БГКТ .У першым паўгоддзі прыбыло 6 новых гурткоў і 605 членаў. Ужо з гэтых некалькі лічбаў відаць, што гурткі БГКТ арганізацыйна ўмацоўваюцца. Найбольшы ўзрост наступіў у Гайнаўскім павеце — 240 новых членаў. Бельскім і Сямяціцкім паветах — па каля 100 членаў. Аднак у кожным павеце існуюць яшчэ велізарныя магчымасці пашырэння арганізацыі. Неабходна адзначыць, што насельніцтва і асабліва моладзь ахвотна ўступае ў рады БГКТ. Але адначасова назіраецца вялікі адплыў з вёсак у цэнтральную Польшчу і гарады (ізноў найчасцей моладзі) у сілу аб'ектыўных прычын: змена месца жыхарства ў пошуках працы, адыход у школы і г. д. Праўленні гурткоў часта без разбору скрэсліваюць са спіскаў сваіх членаў, якія часова пакінулі вёску, напрыклад на сезонныя працы, служаць у арміі ці вучацца на курсах.

Вялікім арганізацыйным недахопам з'яўляецца слабое сплачванне членскіх узносаў. Яшчэ ніяк нельга дабіцца пачуцця патрэбы дабраахвотнага і тэрміновага ўплачвання гэтай сімвалічнай адной залатоўкі ў месяц. Дасягненнямі можа пахваліцца толькі праўленне гарадского аддзел БГКТ у Беластоку, якое у першым паўгоддзі дасягнула каля 35% уплаты ўзносаў, а таксама часткова праўленні БГКТ у Мілейчыцах і Варшаве — па 25% узносаў. Дагэтуль амаль увесь цяжар збірання членскіх узносаў спадаў на інструктараў ГП. Трэба, каб справай гэтай заняліся скарбнікі гурткоў БГКТ, да чаго яны менавіта і выбраны.

Абслугоўванне гурткоў у апошнім сезоне значна палепшылася. Інструктары ГП наведвалі кожны месяц у сярэднім каля 10-ці гурткоў БГКТ. Штатныя працаўнікі ГП у Беластоку і працаўнікі рэдакцыі «Нівы» наведалі амаль усе гурткі ў паветах Бельскім і Гайнаўскім. Актыў таксама прымаў удзел у абслузе гурткоў (Гайнаўка, Мілейчыцы, Беласток). Дабіліся ў асноўным паўгадавой і квартальнай абслугі ўсіх гурткоў, а ў меншых паветах нават месячнай. Маем аднак значна шырэйшыя магчымасці. IV-ты пленум ГП, які адбыўся у красавіку г.г. абавязаў

(Працяг на стар. 4)

САВА

## Параграф і сэрца

Змрок сачыўся праз закратаванае акно, напаўняў камеру, залазіў ва ўсе куткі, закрадаўся ў сэрца.

Ёй толькі 19 год. Прыгавор — паўтара гады. Гэта 18 месяцаў, з паўтысячы дзён. А колькі гадзін — у памяці не падлічыш. А кожная гадзіна здаецца векам.

Вецер вые з болю, разбіўшыся аб краты, і адлятае ад акна, уносячы з сабой думкі. Яны лятуць у запаллае правінцыянальнае мястэчка.

Аднаізбовае памяшканне. Матка панерваваная рыхтуецца ісці спаць. За акном чуюцца няроўныя крокі. Гэта вяртаецца бацька.

— Зноў набраўся, — сустракае яго матка.

— А табе што...

Стэфа хавае галаву пад коўдру. Зараз пачнецца бойка. І так амаль штодзень, ад часу, калі да іх перасталі прыходзіць госці. А прыходзілі тады амаль штодзень. Пілі, гралі ў карты. Раз кончылася агульнай бойкай. Ад таго часу госці не прыходзяць. Толькі адзін заглядвае ад часу да часу, калі няма бацькі дома.

Стукі, бразгат бітай пасуды. Над галавой Стэфы пралятае бутэлька і з гукам разбіваецца аб сцену. Стэфа падрываецца, хоча ўцякаць.

Не, гэта толькі вецер, вярнуўшыся здалёк, бразгае нейкай бляхай.

Сон гэта ці наяве ўспомнілася былое. Не, хіба, не спала. Той самы цяжар у сэрцы не знікае.

Закрыла вочы. Заснуць бы, забыцца пра ўсё. Забыць пра турму, пра матку, пра бацьку.

Колькі год прайшло, калі яна бачыла апошні раз бацьку? «Пайшоў сабакам сена касіць», — гаварылі суседзі. Не шкадавала яго. Ён быў для яе чужы. Так сама як той, што прыходзіў да маткі, і з якім матка адышла, пакідаючы яе з братам: «Вялікія, дадуць сабе рады». Стэфа мела 16 год, а брат быў на год старэйшы.

«Талковы хлапец, нічым не нагадвае бяспутных бацькоў», — адносіліся да яго людзі з пашанай. І ён стараўся апраўдаць гэтую думку.

«Ты глядзі, не псуй добрай думкі людзей аб сабе,» — напамінаў ён Стэфе. Павучаў для яе ж дабра. За сябе ж быў упэўнены, што гэтага не зробіць.

Ён не прышоў на суд. Выракся ўпаўшай сястры. Першы падняў на яе камень... Мо' мае на гэта права — ён безгаганны...

Стэфа паступіла на службу.

— Глядзі, старайся, вучыся ад іх, гэта людзі разумныя, з грамадскай пазіцыяй, — гаварыў брат.

Дырэктар — важная асоба. Крок сам не ступіць — аўтамашына яго чакае. Жыве на шырокую ногу. Не быў бы

(Працяг на стар. 3)

ВЕРА ВЯРБА

* * *

У мяне каханне
Як з палынных рос:
Стрэчы і расстанні
Поўны горкіх слёз.

Колькі жыць на свеце —
Памяць берагчы
Бэзавая квецень
На тваім плячы.

Ты мяне ў гадзіну
Добрую тады
Успамінай, адзіны,
Цветам маладым.

Вось бягу я сцежкай
І пляту касу,
У вачах усмешку
Да цябе нясу.

## НА БЕРАЗЕ БАЛТЫЙСКАГА МОРА



Фота А. Казбярук

 

## Слаўныя людзі Падляшша

# Ігнат Фонбэрг

**1801 — 1891**

Ігнат Фонбэрг — вучань і сябра праф. Енджэя Снядэцкага, магістр філасофіі і доктар медыцыны, ад'юнкт хіміі Віленскага універсітэта, надзвычайны прафесар Універсітэта і Медыцынска-Хірургічнай Акадэміі ў Вільні, прафесар звычайны Кіеўскага універсітэта.

Ігнат Фонбэрг нарадзіўся 1 лютага 1801 года ў Бельску - Падляшскім. Хто ён па нацыянальнасці, нялёгка сказаць. Справа ў тым, што сам Фонбэрг часамі сябе называў палякам, падчас рускім, а іншы раз нават немцам.

Пачатковую школу І. Фонбэрг скончыў у сваім родным Бельску-Падляшскім, адкуль потым у 1812 годзе перайшоў у Беластоцкую гімназію. Пасля заканчэння гімназіі ў Беластоку ў 1817 годзе ён паступіў у Віленскі універсітэт, дзе пад кіраўніцтвам славутага праф. Е. Снядэцкага заняўся выключна хіміяй. Там ён паказаў сябе як вельмі здольнага, кемлівага і працавітага студэнта. Менавіта таму звярнуў на яго ўвагу такі выдатны хімік, якім быў праф. Е. Снядэцкі.

Ігнат Фонбэрг у 1821 годзе быў назначаны намеснікам праф. хіміі, а ў 1822 годзе ў сувязі з адыходам праф. Снядэцкага, заняў ён яго месца. У 1825 годзе ён атрымаў навуковую ступень магістра філасофіі, а ў 1826 годзе яго назначылі ад'юнктам на кафедры хіміі. У 1829 годзе Фонбэрга выбралі надзвычайным прафесарам на гэтай жа кафедры.

Аб плённай навуковай працы Фонбэрга сведчаць шматлікія артыкулы, якія ён змяшчаў у гэты час у «Dzienniku Wileńskim», ў «Wizerunkach i rozstrząsaniach naukowych» і ў энцыклапедыі Глюксберга. Апрача таго, у асобным выданні з'явіліся наступныя яго працы: 1) «Słownik wyrazów chemicznych», Wilno, 1825; 2) „Wiadomości początkowe z chemii", Wilno, 1827; 3) „Wykład nomenklatury chemicznej Berzeliusza", Wilno, 1828; 4) „Chemia z zastosowaniem do sztuk i rzemiosł", Wilno, 1827—29, w trzech tomach і іншыя.

У 1830 годзе Віленскі універсітэт паслаў яго ў навуковую камандзіроўку ў Друскенікі дзеля праверкі мінеральных вод. Свае навуковыя назіранні выклаў ён у кніжцы пад загалоўкам: «Opisanie wody mineralnej Druskiennickiej» (Wilno, 1839).

Пасля таго, як быў зачынены царскімі ўладамі Віленскі універсітэт, Ігнату Фонбэргу запрапанавалі працу ў Віленскай Медыцынска - Хірургічнай Акадэміі ў званні надзвычайнага прафесара з тым аднак, што абавязкова трэба будзе чытаць лекцыі на польскай або лацінскай мове, а перад тым, як прыступіць да працы, здаць экзамены на ступень

**(Працяг на стар. 7)**

## Фальклор Беласточчыны

# ДАЧКА — РАЗУМНІЦА

### КАЗКА

Было гэта даўным - даўно. І было гэта не за лясамі сінімі і не за гарамі высокімі, а недзе тут, на Беласточчыне.

Жыў-быў дзед са сваёй дачкой і жыла-была баба таксама з дачкою. Вядома, цяжка было адной жанчыне з маленькаю дачкою, і перайшлі яны жыць к дзеду. Весела ім учацвярых жылося. Дзед з бабаю на полі працавалі, а дзяўчынкі — аднагодкі ўвесь дзень гулялі. Але вось занядужаў дзед, і баба стала наракаць на яго, што пра хату не дбае. І пачалося — што дзень, то і сварка. Напала злая баба і на дзедаву дачку, стала яе з хаты выганяць.

Плакала-плакала дзедава дачка, ды што тут зробіш са злою мачахаю — сабралася і ў свет пайшла шчасця-долі шукаць. Ідзе дзень, ідзе ноч, зайшла ў цёмны лес ды заблудзілася. Блукае дзедава дачка па лесе і слязьмі заліваецца. Ажно бачыць — карова пад дубам стаіць. Убачыла карова дзяўчынку і кажа ёй чалавечым голасам:

— Чаго ты, сіротка, па лесе блукаеш?

— Мачаха злая мяне з дому выгнала. Вось я і па свеце блукаю, шчасця-долі шукаю, ды ў лес зайшла і заблудзілася. Памажы мне, кароўка, знайсці сцежку-дарожку, — папрасіла дзяўчынка.

— Накармі мяне, напаі і падаі, тады я табе дарогу з лесу пакажу, — адказала карова.

Накарміла дзяўчынка карову, напаіла яе і падаіла. Тады карова вывела яе з цёмнага лесу на шырокае поле.

Падзякавала дзяўчынка карове і пайшла далей. Ідзе дзень, ідзе ноч, а полю і канца не відаць. Села дзяўчынка на камені і стала зноў смуціцца, што пр падзе ў гэтым чыстым полі. Але бачыць: на ўзгорку конь стаіць. Убачыў конь дзяўчынку і пытаецца яе людскім голасам:

— Чаго ты, сіраціна, па полі блукаеш?

Расказала дзяўчынка аб сваёй бядзе і просіць каня, каб памог ёй з гэтага пустога поля выбрацца.

— Напаі мяне і накармі, тады я цябе з гэтага поля на сваіх плячах вынясу, — адказвае ёй конь.

Напаіла дзяўчынка каня і накарміла яго. Падставіў конь нагу, дзяўчынка ўскочыла на яго і паехала. Ехала ці доўга ці коратка, але вось пустое поле скончылася і паказаўся шырокі гасцінец. Злезла яна з каня і падзякавала яму.

Пайшла дзедава дачка па шырокім гасцінцы. Дзень ідзе, ноч ідзе, а гасцінцу і канца не відаць. Прысела яна і стала бедаваць, што прапа-

**(Працяг на стар. 4)**

# Параграф і сэрца

**(Працяг са стар. 1)**

то дырэктар. Гучныя вечарынкі, пасля якіх Стэфа ад стомленасці ледзь трымалася на нагах.

Яшчэ важнейшая асоба — жонка дырэктара. Вялікая пані. З скуры вылезеш — не дагодзіш. Сама палец аб палец не стукне. Сядзіць ды загадвае, ды ўсё не здаволеная.

«Перад вайной цябе аднаго дня не трымала б. Дзве служанкі былі. На пальчыках хадзілі. Эх, якія гэта былі часы, як весела жылося.»

«Мабыць, не гэтым служанкам», — думала Стэфа. Сама яна не ведае, як жылося перад вайной. Але адчувае гэта, гледзячы на раструсцецушую паню, якая пачалавечаму трактуе толькі свайго аблезлага сабаку.

«Вучыся ад іх», — гаварыў брат. А яна не магла ўцяміць, чаго яна ад іх можа навучыцца.

Зімны твар месяца зазірнуў праз краты. З лучкоў праменняў сплёў сярэбраную дарогу ў няведамую даль. Стэфа ідзе гэтай дарогай. Не, гэта мяжа сярод залацістай пшаніцы. А яна не адна. З ёй яе Валодзя. Ветрык калыша пшаніцу, казыча шыю, прабіраецца да цела.

«Ты не ведаеш, як я цябе люблю», — гаворыць ёй, абымаючы яе. Банальныя словы набіраюць нейкага таемнага зместу. Мо' таму, што яна іх ніколі не чула.

«Ці магла яна паступіць інакш? Пашла ў след маткі», — гаварыў яе беззаганны брат. Сапсавала добрую людскую думку. Вядома яму.

Яны сядзяць на мяжы. У галаве кружыцца, як ад віна. Але што гэта? Шлэп, шлэп, — нейкія павольныя крокі. Стэфа зрываецца і будзіцца. Знікае поле, хвалюючая пшаніца. Толькі крокі не сціхаюць. Гэта вязнярка ідзе напіцца вады.

— Спі, дурненькая, чаго ты кідаешся? Праляцяць паўтара гады, не заўважыш. А мо' амнэстыя штось скіне».

Зноў гэтая рэчаіснасць, і гэты цяжар у грудзях.

Заплюшчыла вочы. Прабавала зноў выклікаць гэты цудоўны вобраз. Але ён не вяртаўся.

Рэчаіснасць зусім іншая.

Валодзя знік, як толькі даведаўся, што Стэфа зацяжарала. Бацькі яго не хацелі і слухаць аб жаніцьбе: «Дачка п'яніцы і маткі - валацугі. Дый сама не лепшая. Прычапілася да хлопца. Стыда не мае. Што за свет цяпер пайшоў».

Валодзю доўга пераконваць не было патрэбы. Каб зыйсці з вачэй, выехаў недзе на заходнія землі. Хай паспрабуе судзіцца!

Стэфа не думала судзіцца. Але што рабіць? Які знайсці выхад? Брату лепш не прызнавацца. Матка зусім ёй чужая. А пані, паспрабуй прызнацца, зараз апынешся на вуліцы. Яна і так ужо падазроным вокам паглядае, як бы штось дадумвалася.

Пазбыцца бы цяжарнасці! Але за што? Дзе ўзяць грошы? Кажуць, можна гэта зрабіць бясплатна. Фармальнасцей многа. Што, як даведаецца пані? Выехаць бы дзе, але за што.

400 злотых, якія атрымлівала за працу, разыходзіліся невядома як. Збіраць грошы трэба было б хіба месяцы чатыры. А тады можа ўжо быць позна.

Эх, як цягнецца гэта ноч. Ад думак галава, як цэбар. Вось здаецца лопне.

Сапсутая, распусная дзяўчына. Ды яшчэ і зладзейка. Як яна магла дайсці да гэтага?

Сапучы, як паравоз, прышла дамоў пані. У

**(Працяг на стар. 7)**

ён у сляпую чаргамі біў па скале. Далей Генрых прыкмеціў тушу Пфайфера, якая прыціснулася да каменя, а за ім, відавочна, ляжала Берціна, — Генрыху здалося, што мільганула яе нага ў светлай панчосе.

Кулямётная чарга зноў прайшла над самай галавой, але нікога не кранула.

«Макі хочуць прыціснуць нас да зямлі, каб узяць жывымі!» мільганула ў галаве.

Генрых зноў глянуў на Заўгеля. Той крыху змяніў позу і ляжаў цяпер так, што відны быў яго перакошаны звярыным жахам твар. Агідны твар ката — «паэта допытаў», як называў яго Мілер.

«Лепшай нагоды не будзе!»

Генрых павярнуў кісць правай рукі з заціснутым пісталетам і выстраліў. Заўгель хістануў галавою і ткнуўся лобам у прыклад аўтамата...

Прыціснуўшыся галавою да зямлі, непарушна ляжаў і Генрых. Ён падняў яе толькі тады, калі кулямёт раптам змоўк. Але цяпер да галавы ўпрытык прыціснуліся тры аўтаматныя дулы.

— Устаць! Рукі ўгору!

Генрых падняўся і ўбачыў, як пад дуламі аўтаматчыкаў падымаюцца з кювета Пфайфер, Берціна і шафёр.

Адзін з аўтаматчыкаў падышоў да Заўгеля.

— Гатовы! — кінуў ён камусьці з партызанаў. — У галаву!



— Усіх звязаць!

Да Генрыха падыйшло двое. Адзін хутка яго абшукаў.

— Іч, падла! Аж два пісталеты меў! — злосна сказаў ён працягваючы знойдзены ў кішэні Генрыха маўзер і вачыма паказваючы на буйнакаліберны пісталет, што ляжаў на зямлі.

— І, мабыць, нават не разраджаны!

— Яны перад мірнымі жыхарамі адважныя!

— У, гадзіна! — першы макі са ўсёй сілы ўдарыў Генрыха па твару. Той упаў.

— Хопіць вам! — пачуўся ўладны голас. — У машыну і дамоў! Хутка!

Падштурхіваючы затрыманых аўтаматамі ў спіну, макі падвялі Генрыха, Пфайфера, Берціну і шафёра да машыны і загадалі сесці на задняе сядзенне. Насупраць іх селі два макі з пісталетамі напагатове, на пярэднім сядзенні — яшчэ двое. Адзін з іх, відавочна камандзір, гукнуў:

— Вяртацца старой дарогай!

Машына дала задні ход і так ехала, мабыць, метраў дзвесце, пакуль макі, што сядзеў за рулём, не павярнуў у нейкую вузкую амаль непрыкметную ў цемры цясніну. Ехалі, не ўключаючы фар, пераадольваючы кучы нейкага камення, правальваючыся пярэднімі коламі ў глыбокія выбоіны і зноў падымаючыся ўгору. Машыну ўвесь час кідала з боку на бок, і Генрых раз за разам стукаўся то ілбом, то скроняй аб галаву Пфайфера.



Нарэшце машына выскачыла з цясніны на роўную дарогу і панеслася з вялікай хуткасцю.

Толькі позняй ноччу прыбылі ў горскі пасёлак. Палонных па аднаму вывелі і ўкінулі ў нейкі хлеў, дзе нясло гноем і сапрэлаю саломай.

— Ніхто не паранены? — ціха спытаў Генрых, пачуўшы скрогат замка на дзвярах.

— Я не! — першым адказаў шафёр.

— А вы, гер Пфайфер?

— О, змілуйцеся, не называйце хоць майго прозвішча! — папрасіў прапагандыст.

— У вас забралі дакументы, вось, ваша прозвішча ўжо ведаюць макі!

Пфайфер не то схліпнуў, не то гікнуў.

Генрых сеў на салому. Ад удара, якім яго пачаставаў макі, страшна разбалелася галава, а левае вока зусім схавалася за пухлінай, што далей пабольшвалася.

— Генрых, Генрых! — пачулася шаптанне Берціны. — Як вы думаеце, яны нас расстраляюць?

**(Працяг на стар. 7)**





 

# РАБОЧЫЯ — СЯЛЯНАМ

Такога адрэзанага ад свету закутка, як прыгранічныя вёскі Масева I і Масева II у Гайнаўскім павеце, мабыць не сустрэнеш на тэрыторыі ўсяго Беластоцкага ваяводства. Апошні, так сказаць, «цывілізаваны» пункт, які мае пастаянную сувязь аўтобусамі ПКС з Гайнаўкай і Беластокам, у Альхоўцы. Далей — пушча і дзяржаўная граніца. Масева з Альхоўкай звязана (праўдзівей кажучы — раздзелена) 7 кіламетрамі вузенькай лясной дарожкі. Па гэтай дарожцы нават летам цяжка прабрацца грузавой машынай у Масева. А што зімой, калі завее снегам, або восенню, калі дажджы дарожку расквасяць у ліпкае балота? У такі час да Масева можна прабрацца толькі пехатой у высокіх гумовых ботах.

Вядома, што такія ўмовы вельмі неспрыяльныя для гаспадарчага развіцця загубленых у пушчы вёсак. Нават справа продажу дзяржаве малака ставалася тут не малой праблемай. Пачаць пабудову дарогі грамадскім чынам не было магчымасці. Людзей тут малавата. А зрэшты, маюць яны нямала клопатаў, каб адпаведна забудавацца і стаць на ногі пасля фашысцкай акупацыі. Усе ж гэтыя вёскі былі дашчэнту спалены гітлераўцамі.

На адным са сходаў, калі рабочыя Гайнаўскіх прадпрыемстваў прымалі грамадскія абавязацельствы ў гонар свята — 22 ліпеня, нехта падаў цікавую прапанову:

— А што, братцы, калі б нам у гонар Ліпеньскага свята дапамагчы сялянам Масева пабудаваць новую дарогу? Яны ж там зусім адрэзаны ад свету!

Рабочыя горача падтрымалі гэтую прапанову. Незадоўга пасля гэтага на лясной дарожцы з'явілася група рабочых гайнаўскіх прадпрыемстваў, узброеных рыдлёўкамі. Былі тут рабочыя «Хімічнай», Тартаку, «Гаймаклесу», чыгуначнікі і іншых прадпрыемстваў. Пасля заканчэння працы на фабрыках яны як звычай сядалі ў грузавікі і... тайда за Альхоўку. Глядзелі векавыя Белавежскія дубы на гэтую дзівосную з'яву. Некаторым давялося ўступіць з дарогі перад Гайнаўскімі рабочымі. Не менш былі здзіўлены і самі сяляне. Бо і сапраўды, як доўга існуе Белавежская пушча, ніколі такога не бывала, каб рабочыя з Гайнаўкі прыязджалі «за дарма» будаваць масеўцам дарогу. Менавіта гэты ўчынак рабочых зрабіў немалы пераварот у думках сялян. Бо хоць аб аснове нашага ладу — саюзе рабочых і сялян — яны чулі неаднойчы, але так канкрэтна, так відавочна, яны гэты саюз адчулі мабыць, першы раз у сваім пушчанскім жыцці.

Незадоўга ў Масева па новай дарозе паедзе аўтобус ПКС. Загубленыя ў пушчы, прыгранічныя вёскі мацней злучацца з цэнтрам павета, з усёй нашай краінай. (вб)

## Людзі, сярод якіх мы жывем

# Гаспадар — інжынер

Гляджу на яго твар загарэлы на сонцы да шакаладнага колеру, абветраны — твар чалавека, які напэўна не заседжваецца за канцылярскім сталом.

Выпускнік Ьроцлаўскай Вышэйшай сельгаспадарчай школы інж. Генрык Янчыла пасяліўся ў вёсцы Валілы тры гады таму. Кіруе там дзяржаўным сельскім гаспадарствам.

Спадчына, якая асталася пасля яго папярэдніка, не магла выклікаць аптымізму. Звыш дзвухсот га не найлепш дагледжанай зямлі, раскінутай у некалькіх мясцовасцях, адлеглых да 10-ці кіламетраў, занядбаныя ставы, старыя гаспадарчыя будынкі і ўрэшце — поўмільёна(!) даўгу .

Не кожны адважыўся б прыняць на сябе поўную адказнасць за гаспадарку ў такім стане. Ён аднак па характару аптыміст. І гэты аптымізм, падбудаваны грунтоўнай прафесіянальнай падрыхтоўкай, абумовіў яго згоду на кіраўніцтва ПГР-ам у Валілах.

Ад таго часу прайшло тры гады. У сельскай гаспадарцы тэта адносна невялікі перыяд часу.

**— У мінулым гаспадарчым годзе, — гаворыць інж. Генрык Янчыла, — наш ПГР атрымаў з аднаго гектара 18,5 цэнтнераў чатырох асноўных збожжавых культур, 175 цэнтнераў бульбы і 350 цэнтнераў цукровых буракоў. Для параўнання магу падаць, што сярэдняя ваяводская па ўраджайнасці чатырох асноўных збожжавых культур складае 15 цэнтнераў на гектар.**

**(Працяг на стар. 7).**

# Паўгадавыя дася БГКТ



**На літаратурным вечары. Выступае Яша Бурш.**

**(Працяг са стар. 1)**

усіх членаў ГП, членаў праўленняў аддзелаў і актыў сістэматычна абслугоўваць гурткі БГКТ з такім улікам, каб кожны гурток абслугоўваўся хоць бы адзін раз у месяц. Пастанову трэба пачаць выконваць адразу пасля заканчэння асноўных палявых работ.

Вялікую дапамогу ў працы ГП аказваюць грамадскія камісіі і аб'яднанні пры Галоўным Праўленні БГКТ. Дзейнічаюць тры камісіі: прапаганды, асветы і культуры, якія маюць квартальныя пасяджэнні. Члены камісіі прапаганды на адным пасяджэнні распрацавалі выдавецкі план ГП на 1962 год, а на другім — ацэньвалі наш орган «Ніву». Прапановы камісіі асветы ў справе далейшага развіцця навучання беларускай мовы ў школах аналізаваліся Нацыянальнай Камісіяй Ваяводскага Камітэта ПАРП.

Праца камісіі культуры аказала сур'ёзнае ўздзеянне на праграму эстрады «Лявоніха».

Маладых паэтаў і празаікаў, якія пішуць на беларускай мове, згуртоўвае Літаратурнае аб'яднанне. У мінулым паўгоддзі яно правяло двухдзённы семінар, які закончыўся сустрэчай членаў аб'яднання з вучнямі агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове.

Стараннем членаў Літаб'яднання надрукавана ў «Ніве» 6 літаратурных старонак. Некаторыя члены, напрыклад, В. Швед і Я. Бурш падрыхтоўваюць свае вершы з мэтай іх выдання.

Навуковы гурток пры ГП у справаздачным паўгоддзі не праводзіў пасяджэнняў у сувязі з нетэрміновай здачай прац. Прадбачаныя пасяджэнні адбудуцца восенню. Надзвычай вартасную, піянерскую працу падрыхтаваў ужо доктар Ежы Вішнеўскі з Познані на тэму ранневяковага асадніцтва на Падляшшы. Доктар Павел Кожэц зноў апрацаваў артыкул аб забастоўках крынкаўскіх гарбароў. Шматлікія іншыя працы сведчаць, што наступны зборнік навуковых прац, які выйдзе ў 1-ым квартале 1963 года, будзе цікавым.

У тым жа часе падрыхтаваны да друку беларускі каляндар на 1963 год і пачалася падрыхтоўка зборніка вершаў, апавяданняў і артыкулаў аб Беласточчыне для дзяцей пачатковых школ.

За паўгоддзе апрацавана ў ГП 23 тэксты, паводле якіх прачытана праз радыёвузлы паўднёва - усходняй Беласточчыны 108 радыёгутарак. Тэматыка іх была даволі разнастайная: аб жыцці БГКТ, бел. мове і літаратуры, гаспадарчая праблематыка, аб бягучай палітыцы, акалічнасныя тэмы і гэтак далей. Паводле ацэнкі слухачоў, радыёгутаркі былі даволі цікавыя. Нехапае ў іх аднак музычнага афармлення. Найчасцей не дазваляюць на гэта тэхнічныя ўмовы радыёвузлоў, ды і нашыя магчымасці абмежаваныя.

Шырокі размах атрымаў мастацкі аматарскі рух. У гэтым, здаецца меншая заслуга БГКТ і іншых арганізацый, а найбольшая — самой моладзі, якая вельмі ахвотна аб'ядноўваецца ў мастацкія гутаркі, у якіх ахвярна працуе. Вялікую дапамогу аказваюць моладзі настаўнікі і бібліятэкары. Існавала 86 мастац-



**З выстаўкі народнага мастацтва (гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку).**

# ДАЧКА — РАЗУМНІЦА

**(Працяг са стар. 3).**

дзе на гэтым бясконцым гасцінцы. Глядзіць: па гасцінцы ідзе печ беленая. Убачыла яна дзяўчынку і пытаецца:

— Чаго, сірата, па гэтым гасцінцы блукаеш?

Расказала дзедава дачка пра сваю бяду і папрасіла вывесці яе з гэтага бясконцага гасцінца.

— Напалі мяне, — кажа печ беленая, — тады я з гэтага гасцінца звяду.

Напаліла дзедава дачка печ, а тады тая кажа:

— Садзіся на мяне, я павязу цябе да канца гасцінца на гару высокую.

Калі пад'ехалі да гары, печ тут і кажа:

— За гэтаю гарою канчаецца гасцінец і стаіць замак Ката - мурлыкі. Можаш пайсці да яго працаваць, але будзь асцярожнай.

Пайшла дзяўчынка дарогаю, зайшла ў палац Ката - мурлыкі і схавалася ў куточку. Палац прыгожы і вялікі. Усё кругом золатам зіхаціць, Кот-мурлыка на шаўковай падушачцы на печы ляжыць, а слугі яму тоўстых мышэй падносяць. Есць кот мышэй ды нешта сабе пад вусам мурлыкае. Павёў Кот - мурлыка вусам, чужы дух у палацы пачуў ды кажа слугам:

— Прывядзіце да мяне гэтую дзяўчынку - сірацінку, што недзе ў палацы хаваецца.

Доўга шукалі слугі дзедаву дачку, а тая перад грозным Катом-мурлыкам са страху аж зайшлася. Знайшлі яе слугі і да Ката-мурлыкі прывялі.

— Чаго ты тут блукаеш, мой спакой парушаеш? — пытаецца яе Кот-мурлыка.

Расказала дзедава дачка пра сваю бяду.

— Добра, — кажа той. — Заставайся служыць у мяне.

Служыць дзедава дачка ў Ката-мурлыкі, падлогі мые, падушачкі яму шые, малако цёплае на талерачцы падносіць. Служыць год, служыць другі, на трэці засумавала. Захацелася ёй дадому. Стала яна прасіць у Ката-мурлыкі адпусціць яе дахаты. Той спачатку не хацеў адпускаць яе, але потым даў ёй мяшок грошай за службу і кажа:

— Ідзі сабе ды не аглядайся.

Пайшла вясёлая дзедава дачка дадому. Спявае, радуецца, глядзіць на светлае сонейка, на кветкі ля дарогі ды не заўважыла, як аглянулася. І бачыць: гоніцца за ёй Кот-мурлыка са слугамі сваімі і крычыць:

— Аддавай мне грошы, што я табе даў!

Стала дзедава дачка ўцякаць. Але дзе там! Кот - мурлыка ўжо вельмі блізка. Але тут на дарозе стала печ беленая ды як дзьмухне Кату-мурлыку ў нос попелам! Стаў кот чхаць ды з печаю сварыцца, а дзедава дачка тым часам дабегла ўжо да поля пустога. А Кот - мурлыка яе ўжо па пятах гоніць. Але тут на полі паказаўся конь. Падставіў ён дзедавай дачцы нагу. Ускочыла тая на яго і панесліся яны да лесу дрымучага. Адстаў Кот - мурлыка, а дзяўчынка пайшла хуценька лесам. Але вось пачула яна за плячыма злое мурлыканне Ката і ўбачыла карову. Наставіла карова рогі Кату. Той пабаяўся яе. Павярнуў у свой палац. Дзедава дачка ж пайшла сабе спакойна дахаты.

Прыйшла яна і грошы прынесла. Паказала ўсім, што ў Ката-мурлыкі зарабіла. Пазайздросціла баба дзедавай дачцы такога багацця і паслала сваю дачку да Ката-мурлыкі на службу.

Не хацела бабіна дачка на службу ісці, бо не любіла яна працы. Але маці сілком яе з хаты выгнала.

Ішла-ішла бабіна дачка і спаткала карову. Але не накарміла яе, не напаіла і не падаіла. Напаткала яна каня. Не захацела накарміць яго і напаіць. Потым сустрэла печ, але не напаліла яе. Доўга служыла яна ў Ката - мурлыкі і зарабіла трохі грошай. Але калі вярталася дамоў, Кот-мурлыка дагнаў яе і ўсе грошы адабраў. Ніхто не бараніў лянівую бабіну дачку. Таму і прыйшла яна дахаты з пустымі рукамі.

Апрацаваў

**АЛЕСЬ ЧАБОР**

## З пісем землякоў

# Чалавек чалавеку...

...не верыць. Здзіўляешся, што так пішу? На жаль, не мая гэта выдумка. Памятаю, як сват на марысьчыным вяселлі выкрыкнуў: «Не вер каню ў дарозе, а жонцы ў хаце!» Нейкі сапляк - дружбант дадау тады, што «маладой жонцы» не вер, значыць. Жарты, смех...

Пасля таго, што нядаўна са мной здарылася, доўга не знайду спакою. Рубаю я дровы на панадворку, ажно чую, крычыць сусед з вуліцы:

— Іван! Ідзі, у солтыса хтосьці з павету мае да цябе справу.

Заходжу. Ля стала сядзіць экзекутар сямяціцкага фінансавага аддзела.

— Чаму не плаціце складчын ПЗУ, — бзікае на мяне.

«Каб ты згарэў», — думаю. Кажу яму:

— Усё заплаціў. Хочаце, прынясу квіты?

— Я не прыехаў спраўджваць квіты! — прыкрыкнуў на мяне, старога. — Плаці грошы...

Здавалася, што ў той момант лясну яго па патыліцы. Закруцілася ў вачах, задрыжэлі рукі. Не могучы выціснуць з горла больш ані слова, адварочваюся і выходжу.

Гарачая летняя вуліца быццам пацямнела. Ад гневу балела галава. Даваклокся да хаты, замкнуў яе на замок ды пайшоў прэч. — Ідзі, займай багацце!

Магчыма, што і я тут пагарачыўся — не вытрымаў. Усё ж ён — экзекутар, прадстаўнік улады. А выходзіць так, што кожны селянін — патэнцыяльны даўжнік дзяржавы; нічога не гавары, толькі давай грошы! Тлумачэнняў і слухаць не хочам...

Не ездзіў я да павету выясняць сваю справу. Коштаў за дарогу ніхто не зверне, а па пустому марнаваць дзень шкада, калі жніво ў полі. Грызла - грызла злосць і надумаўся пайсці да Міхася, раднага павятовай рады. Усё расказаў яму, як было — а як жа.

Учора даведваюся, што і павет тут не без віны. Шле спісы даўжнікоў у грамадскія рады, адсюль зноў рассылаюць іх солтысам. А ў гэтых спісах — і вінаватыя, і не вінаватыя. Чыстая каніцель! Відаць, і мая фамілія папалася. (На адну больш ці менш — усё роўна). Ну, скажы ты, няўжо гэтак цяжка праверыць, хто ўплаціў, а хто — не? І зрабіць спісы па-людску?

На солтыса не злую, бо і ніпрычым ён тут. Усё стаіць перад вачыма той «мястовы» мужчына, звіняць у вушах яго абразлівыя словы... Эх, браток, інтэрас да чалавека мець — гэта не дровы рубаць.

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

кіх калектываў, з гэтага ліку 53 — драматычных, 24 — харавых і 9 музычна - танцавальных. БГКТ правяло ў некаторых паветах семінары, бясплатна передала ўсім калектывам рэпертуар на беларускай мове на суму каля 17 тысяч злотых. Вясною праводзіліся элімінацыі спачатку павятовыя, а пасля

## гненні

ваяводскія. Найлепшым аматарскім калектывам аказаўся спалучаны калектыў з вёскі Казлы і агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску, які заваяваў кубак «Нівы». Сярод драмгурткоў найвышэйшы ўзровень паказалі ўдзельнікі з вёскі Скупава, Гайнаўскага павета, а сярод музычна - танцавальных спалучаныя калектывы з вёсак Пілікі — Орля, Бельскага павета. Усе яны атрымалі цэнныя ўзнагароды.

ГП БГКТ шукае іншых форм дапамогі мастацкаму руху шляхам забеспячэння інструктажу, правядзення большай колькасці курсаў для ўдзельнікаў і г. далей. Шматлікія гурткі далі за паўгоддзе па 5—8 канцэртаў. Аднак амаль заўсёды адчуваецца недахоп інструктажу.

У заспакаенні культурных патрэб вясковага насельніцтва найбольшае значэнне мела эстрадная група ГП «Лявоніха». За паўгоддзе дала яна 138 канцэртаў для 22 290 гледачоў. На асаблівую ўвагу заслугоўвае той факт, што «Лявоніха» праводзіла канцэрты ва ўсіх вёсках незалежна ад сцэнічных умоў. Сустракаліся такія сяляне і цэлыя вёскі, у якіх ніколі не было нават аб'язднога кіно. Нічога дзіўнага, што мясцовыя жыхары сустракаюць членаў «Лявоніхі» надзвычай энтузіязна.

Калектыў песні і танца ГП налічваў звыш 70 асоб. Пад кіраўніцтвам Г. Куляшэвіч і Т. Макарук у першым паўгоддзі падрыхтоўваў ён новую праграму. Таму даў толькі 3 канцэрты, з гэтага два — ў Беластоку супольна з Калектывам ГП Украінскага Таварыства і адзін — у Чорнай Всі.

У пашырэнні мастацкай дзейнасці асноўнай перашкодай з'яўляецца недахоп падрыхтаваных кадраў.

У галіне асветы ГП аказвала дапамогу настаўнікам у навучанні і выхаванні дзяцей, а таксама прымала ўдзел у пашырэнні асветы дарослых. Прадстаўнікі БГКТ удзельнічалі ў заканчэнні навучальнага года ў канферэнцыях настаўнікаў, на кошт таварыства праведзена метадычная канферэнцыя ў Паўночным Востраве, Сакольскага павета. Супольна з Кураторыумам быў арганізаваны беларускі рэцытатарскі конкурс для вучняў сярэдніх школ. Для вучняў пачатковых школ арганізавана 18 экскурсій у Варшаву, Кентшын, Закапанэ і Белавежу. Шырока адзначаліся ГП Дні Асветы, Кніжкі і Друку.

У тым жа часе праведзена 18 папулярна - асветных лекцый, 49 гутарак аб гігіене асабістага жыцця, выхаванні дзяцей, працы ГП БГКТ, грамадскіх правах і абавязках жыхароў і гэтак далей. Для школ і бібліятэк апрацавана некалькі дзесяткаў літаратурных мантажоў для выкарыстання. Праведзены 32 аўтарскія сустрэчы, у тым ліку каля 20-ці для вучняў тых школ, у якіх вывучаецца беларуская мова. У 79 пунктах (святліцах, бібліятэках, школах і г.д.) экспанаваны выстаўкі і фотамантажы. Тэматыка іх была вельмі разнастайная — з жыцця БССР і БГКТ, выстаўкі мастакоў - аматараў Бібілы, Тафткевіча, Хомчыка і малюнкаў дзяцей пачатковых школ.

Пры аддзелах БГКТ у паасобных паветах працавала 6 невялікіх бібліятэк, якія разам налічвалі каля 7500 кніжак. Беларускім кнігазборам карысталася ў сярэднім у месяц каля 600 асоб. Найбольшых поспехаў дабілася бібліятэка гарадскога аддзела БГКТ ў Беластоку. Некаторыя нашыя бібліятэкі пачалі арганізаваць у вёсках бібліятэчныя пункты, што дадатна ўплыло на пашырэнне чытальніцтва на беларускай мове. Вядзецца цеснае супрацоўніцтва з грамадскімі, павятовымі і ваяводскай бібліятэкамі.

Вялікай папулярнасцю карысталіся культурныя мерапрыемствы ГП, як беларускія фестыны, якія сцягвалі ў прыгожыя мясціны тысячы людзей, танцы, экскурсіі. Толькі ў маі і чэрвені праведзена для школьнікаў і членаў гурткоў БГКТ 27 экскурсій, у якіх удзельнічала 1180 асоб.

У гэтым невялікім артыкуле немагчыма дакладней пазнаёміць чытачоў з усімі напрамкамі працы ГП БГКТ. Можа нават існуе патрэба пашырэння дзейнасці. Вельмі просім, напішыце у «Ніву» або непасрэдна ў ГП

**УЛ. ЮЗВЮК**

# Праца інвалідам

Чалавек поўнасцю задаволены жыццём, калі адчувае, што ён патрэбны грамадскасці, калі можа працаваць і яго праца дае канкрэтныя карысці для краю.

Наша дзяржава не шкадуе намаганняў, каб вярнуць працаздольнасць інвалідам. Дзеля гэтага менавіта створана арганізацыя інвалідскіх кааператываў, якія займаюцца навучаннем інвалідаў і вядуць адпаведныя прадпрыемствы, дзе яны могуць знайсці працу. Вартасць тавараў, выпрадукаваных у такіх прадпрыемствах і кааператывах на Беласточчыне, дасягае некалькі сот мільёнаў зл. Гэта ўжо адносна сур'ёзная пазіцыя ў нашым тавараабароце.

Як дагэтуль, выяўляюцца цяжкасці з працай для інвалідаў у паўднёва - усходніх паветах Беласточчыны. Незадоўга гэтыя цяжкасці знікнуць для жыхароў Бельска і Гайнаўкі. У Бельску ў 1963 годзе пачне працу прадпрыемства, у якім інваліды будуць выробляць кардонныя скрынкі, а ў Гайнаўцы (таксама ў наступным годзе) інваліды знойдуць працу аж у двух пунктах. Адзін — гэта прадпрыемства, для якога сыравінай будуць лясныя спажывецкія прадукты (ягады, грыбы і т.п.), а другі арганізуецца пры тартаку і ў ім інваліды будуць прадукаваць апакаванні з драўляных адпадаў.

(вр)

**АБ ПОМАЧЫ «САМАПОМАЧЫ»**

# Услугі, але каму?

Загаварылі цяпер аб услугах гаспадарам. А найбольш у ПЗГС-ах «Самопомоц Хлопска».

1.576 тысяч злотых даходаў за ўслугі атрымалі ў бягучым годзе ПЗГС-ы бельскі, гайнаўскі, сакольскі і беластоцкі. (І паўгоддзе). Вялікая сума! Але «не крычы «гоп», пакуль не пераскочыў», — пагаварвае дзядзька. Бо і праўда. З гэтай сумы ўсяго 202,8 тысяч зл. даходаў за ўслугі вясковаму насельніцтву. Каля 12%! А рэшта, дзе 88%? Вось, хаця б, рамонтна - будаўляныя брыгады пры ПЗГС-ах. Пераважна 7—10-асабовыя. Выконваюць работы для... ГС-аў, часамі, для іншых устаноў. Вартасць іх услуг, напрыклад, на Гайнаўшчыне дасягнула 530 тыс. зл.!

Існуюць разлеўні піва, пачкарні... Фірмы ў фірме! А селянін у патрэбе наймае майстра з суседняй вёскі, сам служыць яму некваліфікаванай сілай. Піва зноў кадушкамі не купляе, а з пакункам... эх, толькі смех.

### ДАВЕДВАЕМСЯ, ШТО...

...ўсяго налічваецца 209 услуговых пунктаў. Знаходзяцца яны пры ўспомненых ПЗГС-ах, а таксама пры ГС-ах. Значыць, у гарадах і мястэчках. Да бліжэйшай вёскі ў найлепшым выпадку пару кіламетраў...

Бельскі ПЗГС «ганарыцца» чатырма чышчальнямі, якія за паўгода далі 9,7 тыс. зл даходаў. Бо на трох пякарскіх пунктах «зарабіў» аж... 1489 зл. і 357 зл. у шасці пазычальнях для гаспадынь, а 445 зл. за сельскагаспадарчыя (палявыя) услугі. Ёсць яшчэ (а як жа!) такія ўслуговыя пункты, як прасы для саломы, пункты запраўкі насення, кулінарных прыладаў. Даходы з іх роўныя нулю. Шчыра кажучы, падобны капітал «збіў» і гайнаўскі ПЗГС.

У беластоцкім ВЗГС-е тлумачаць:

— На вёсцы людзі пякуць і гатуюць у сваіх печах (няма лепшага ад свайго хлеба); сталовую пасуду і іншую кухонную «тэхніку» можна пазычыць і ў суседа (чаго ж перціся за паўсвету да ГС-у па мясарэзку ці... чаркі). Ну, а сельскагаспадарчыя ўслугі? Мала даходаў — гэта факт (у 1 квартале зусім не было), але на Бельшчыне ёсць 56 гуртkoўскіх машына-трактарных камплектаў, у той час, калі на Сакольшчыне не больш 11-ці, і дзе мясцовы ПЗГС зарабіў не 445, а 15 тыс. злотых толькі за II квартал! Сапраўды.

### УПЕРШЫНЮ...

...у бягучым годзе выказана сур'ёзнае зацікаўленне справай разбудовы ўслуг гаспадарам, — пахваліліся ў ваяводстве. Цешымся.

У 1963 годзе намечана арганізаваць на Беласточчыне новыя ўслуговыя пункты — 17 шклярскіх, 3 сталярскія, 2 «вульканізаторскія» (гумакі). Будзе створана 21 будаўляная брыгада тыпу — муляр, пячнік, маляр. Нарэшце! Няўжо пачатак канца «майстрам з суседняй вёскі».

Прадбачана ўтварэнне 40-а пунктаў па рамонту электратэхнічнага абсталявання — радыёпрыёмнікаў, сціральных машын, прасаў, пылесосаў і т.п. (для адсылкі ў гарадскія майстэрні!) Прадбачана стварэнне 10 слесарска - кавальскіх пунктаў, 13 пазычальняў сельскагаспадарчых машын. Прадбачана... найчасцей, пры ГС-ах.

— Узнікаюць цяжкасці з памяшканнямі на вёсцы, — сказалі мне. — А прытым, не знойдзем так многа ахвотных спецыялістаў, кожны «рвецца» ў горад.

* * *

Крама ёсць у кожнай большай вёсцы. Што ж, гэта таксама ўслугі...

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# ЧАКАЕМ АГРАНОМА



**Аграном — настаўнік гаспадара. У вёсках, побач новых школ паяўляюцца не менш прыгожыя будынкі «аграномак». У іх — кватэра для агранома, лекцыйная зала, лабараторыя.**

**У мінулым годзе пабудавана на Беласточчыне 40 такіх «аграномак». На бягучы год прадбачана 34-ы. Вось адну з іх мы адведалі. Спадабалася. Яшчэ пабяліць сцены, навясці апошнія парадкі і — чакаем агранома.**

**На здымку: аграномка ў Тымянцы, Сямяціцкі павет.**

**(ся)**

Фота — **А. Здрадоўскі**

